ЭКСПЕРТИЗА

# МВФ предупредил Беларусь о риске нового витка кризиса

Международный валютный фонд в своем сообщении, подготовленном по итогам завершившихся консультаций и второго постпрограммного мониторинга, предупреждает о риске повторения в Беларуси прошлогоднего финансового кризиса.

*“Стремление к достижению высоких показателей экономического роста и заработной платы может вызвать новый виток раскручивания инфляции и девальвации, создать угрозу среднесрочной устойчивости бюджета и долга”,* — сказано в опубликованном в сообщении МВФ.

МВФ приветствовал антикризисные меры, которые были реализованы властями со второй половины 2011 года, и призвал далее проводить политику бюджетных ограничений и дисциплинированную политику в области заработной платы в государственном секторе. *“Продолжение жесткой денежно-кредитной политики также будет важно для сдерживания инфляции. Она должна подкрепляться сохранением гибкого обменного курса и надежными резервами, призванными оградить экономику от внешних потрясений. В этой связи успехи в создании предпосылок для таргетирования инфляции укрепили бы доверие к денежно-кредитной и курсовой политике”,* — говорится в сообщении фонда.

Однако, по оценке МВФ, в последнее время *“структурные реформы продвигались медленно, время от времени менялась их направленность. Реформирование банковского сектора идет медленными темпами, и немногое сделано для ужесточения бюджетных ограничений госпрограмм”.*

В сообщении также отмечается, что *“твердая приверженность высших должностных лиц прочной и последовательной стабилизации и стратегии реформ”* является условием возобновления переговоров о предоставлении Беларуси новых кредитов МВФ, заинтересованность властей в которых Исполнительный совет *“принял к сведению”.*

ПРАБЛЕМА

# «Бацькі выхавалі мяне пацыфістам...»

*З-за адсутнасці ў Беларусі закона аб альтэрнатыўнай грамадзянскай службе маладых людзей, якія не хочуць ісці ў армію, лічаць “ухілістамі”...*

*У Канстытуцыі Беларусі напісана, што абарона краіны з’яўляецца абавязкам яе грамадзяніна. Пры гэтым парадак праходжання вайсковай службы, падставы і ўмовы вызвалення ад вайсковай службы альбо замена яе альтэрнатыўнай вызначаецца законам.*

*Такім чынам, Асноўны закон Беларусі не разглядае службу ў войску ў якасці адзінай і безумоўнай магчымасці выканання грамадзянскага абавязку і дапускае верагоднасць вызвалення ад вайсковай службы альбо замену яе альтэрнатыўнай. Аднак прызыўнікі, якія настойваюць на праходжанні грамадзянскай службы, сутыкаюцца з праблемамі... Бо адпаведнага закона да сённяшняга дня няма. І некаторыя хлопцы, якія па сваіх перакананнях не могуць браць у рукі зброю, трапляюць у... псіха-наркалагічныя дыспансеры.*

*Вось гісторыя жыхара Ліды Андрэя Чарнавусава.*

— У сярэдзіне сакавіка я атрымаў павестку на праходжанне медыцынскай камісіі. Я з’явіўся, бо трэба было пацвердзіць мой медыцынскі дыягназ — “артрыт”, які мне паставілі лідскія медыкі. Мяне накіравалі ў абласную клінічную бальніцу ў Гродне. Там абследавалі і прыйшлі да высновы, што ніякага захворвання няма, хаця суставы ў мяне як балелі, так і баляць... Пасля гэтага я прыехаў у ваенкамат, дзе высветлілася, што я годны да вайсковай службы без абмежаванняў. Адразу пасля гэтага я напісаў заяву на імя начальніка ваенкамата з просьбай прадаставіць мне магчымасць пайсці на альтэрнатыўную грамадзянскую службу. У мяне на гэта свае прычыны. Бацькі выхавалі мяне пацыфістам — для мяне непрымальна ўсё тое, што звязана са зброяй, войскам і вайной... Аднак у ваенкамаце мне сказалі, што магчымасці прайсці альтэрнатыўную грамадзянскую службу папросту няма... У выніку пасля напісання заявы аб праходжанні АГС я апынуўся ў псіха-наркалагічным дыспансеры Гродна. Так вырашылі ў лідскім ваенкамаце. Прычым сказалі, што гэта будзе звычайнае абследаванне, ніхто класці ў стацыянар мяне не будзе... У накіраванні ад ваенкамата было напісана: “Прызыўнік напісаў заяву з патрабаваннем замяніць тэрміновую службу на альтэрнатыўную грамадзянскую”. Дактары псіха-наркалагічнага дыспансера павінны былі ўпэўніцца, што, патрабуючы АГС, я з’яўляюся здаровым псіхічна. Пяць дзён мяне пратрымалі ў аддзяленні памежных станаў і ў выніку прызналі абсалютна здаровым. Цяпер, па рашэнні прызыўной камісіі, я павінен служыць у сухапутных войсках. Я не згодны з гэтым і зараз у судзе знаходзіцца мая скарга на дзеянні прызыўной камісіі. Я не лічу сябе ўхілістам, я гатовы прайсці альтэрнатыўную грамадзянскую службу, але ці дазволяць мне гэта зрабіць, хаця Канстытуцыя такое права гарантуе, — пытанне адкрытае.

Яшчэ адзін жадаючы прайсці альтэрнатыўную грамадзянскую службу — 21-гадовы бабруйчанін Алег Яўзрэзаў. Вось што ён распавядае:

— У гэтым годзе ў мяне скончылася адтэрміноўка ад прызыву ў армію. Яна была мне дадзена па стане здароўя — медыкі дыягнаставалі пралапс метральнага клапана. Адтэрміноўка скончылася, і ваенкамат пастанавіў прызваць мяне ў войска. Нават нягледзячы на тое, што падчас медагляду дыягназ пацвердзіўся, мяне прызвалі ў армію. Яшчэ 12 красавіка я напісаў у ваенкамат ліст з патрабаваннем накіраваць мяне на альтэрнатыўную грамадзянскую службу. Адказ быў адмоўным: маўляў, такой магчымасці ў Беларусі няма. Але па сваіх перакананнях я не магу браць у рукі зброю, не магу і не хачу ваяваць. Таму я абскардзіў рашэнне прызыўной камісіі ў судзе, зараз чакаю прызначэння даты судовага разбіральніцтва.

Сутыкнуўшыся з праблемай адсутнасці ў Беларусі альтэрнатыўнай грамадзянскай службы, Андрэй Чарнавусаў і Алег Яўзрэзаў звярнуліся да каардынатараў кампаніі за альтэрнатыўную службу ў Беларусі.

— Праблема насамрэч існуе, — гаворыць каардынатар кампаніі “За альтэрнатыўную грамадзянскую службу” Яўген Асіеўскі. — Ёсць Канстытуцыя, якая прадугледжвае праходжанне альтэрнатыўнай службы, у “Законе аб вайсковай службе” таксама ёсць артыкулы, дзе ўтрымліваецца фармулёўка “альтэрнатыўная служба”, ёсць хлопцы, якія хочуць яе праходзіць... А механізма, які б раскрываў, як гэта можна зрабіць, — няма. Яшчэ ў 2000 годзе Канстытуцыйны суд Беларусі пастанавіў распрацаваць закон пра альтэрнатыўную грамадзянскую службу. У 2010 годзе Аляксандр Лукашэнка засяродзіў на гэтым сваю ўвагу, зноў даручыўшы распрацаваць адпаведны закон. Але яго як не было, так і няма. Людзей, якія хочуць прайсці АГС, бяруць у войска альбо лічаць ухілістамі. Але ў дадзеным выпадку адмова людзей ісці ў войска — свядомая. Ёсць людзі (іх няшмат, але яны есць: напрыклад, у гэты прызыў да нас звярнулася 12 чалавек), якія, згодна са сваімі перакананнямі, не могуць насіць вайсковую форму ці браць у рукі зброю... Людзі гатовы аддаць доўг Радзіме, але мірным спосабам, працуючы ў праблемных месцах — у бальніцах, дзіцячых дамах, дамах састарэлых, лясніцтвах, карацей, там, дзе не хапае працоўных рук.

Аднак практыка ў Беларусі такая: калі прызыўнік піша заяву на АГС, то яму адмаўляюць і прызываюць у войска, хаця па вялікім рахунку павінна быць адтэрміноўка, прынамсі, да прыняцця адпаведнага закона.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## ДА ВЕДАМА

Яшчэ ў 2004 годзе законапраект “Аб альтэрнатыўнай службе” ўнёсілі на разгляд у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі. Праект закона прадугледжваў норму: калі перакананні ці веравызнанне грамадзяніна не дазваляюць яму трымаць у руках зброю, закон павінен быў забяспечыць чалавеку права на альтэрнатыўную службу. Аднак той варыянт закона быў адхілены.

Два гады таму была створана новая працоўная група па распрацоўцы Закона аб альтэрнатыўнай грамадзянскай службе. Зараз яе ўзначальвае старшыня Канстытуцыйнага суда Пётр Міклашэвіч. Як ідзе праца над дакументам, сказаць складана, бо ўсё адбываецца ў закрытым рэжыме. Апошняе пасяджэнне працоўнай групы адбылося 15 мая.

“На ўсе нашы звароты да сябраў працоўнай групы з пытаннямі аб тым, як ідзе праца над дакументам, прыходзіць стандартны адказ: “Праца працягваецца”, — гаворыць Яўген Аўсіеўскі.

САЛІДАРНАСЦЬ

# Алесь Бяляцкі ўзнагароджаны прэміяй Дзяржэпартамента ЗША

*Дзяржэпартамент ЗША ўзнагародзіў зняволенага беларускага праваабаронцу Алеся Бяляцкага за дзейнасць у галіне абароны правоў чалавека. “Гэтая ўзнагарода адзначае асоб і няўрадавыя арганізацыі, якія дэманструюць надзвычайную мужнасць і лідарскія якасці ў абароне правоў чалавека і дэмакратыі ва ўмовах рэпрэсій з боку ўрада”, — паведамляецца ў заяве Дзяржэпартамента.*



## Заява прэс-сакратара Дзяржэпартамента ЗША Вікторыі Нуланд

Дзяржаўны дэпартамент ЗША рад аб’явіць, што Алесь Бяляцкі з Беларусі і Кааліцыя грамадзянскай супольнасці па правах чалавека і канстытуцыйным праве з Уганды атрымалі Узнагароду за дзейнасць у галіне абароны правоў чалавека 2011 года. Гэтая ўзнагарода адзначае асоб і няўрадавыя арганізацыі, якія дэманструюць надзвычайную мужнасць і лідарскія якасці ў абароне правоў чалавека і дэмакратыі ва ўмовах рэпрэсій з боку ўрада.

Алесь Бяляцкі мужна бараніў правы пацярпелых ад пераследу людзей і іх сем’і, нягледзячы на пагрозу з боку ўрада Беларусі. Як заснавальнік “Вясны”, адной з буйнейшых праваабарончых арганізацый Беларусі, Бяляцкі прадстаўляў юрыдычную і практычную дапамогу ахвярам няспыннага пераследу і выступаў ключавой крыніцай інфармацыі аб парушэннях правоў чалавека. Зараз ён з’яўляецца палітычным зняволеным, адбываючы турэмнае пакаранне ў чатыры з паловай гады за абарону правоў чалавека.

Сёлета на ўзнагароду былі намінаваныя прадстаўнікі з усіх куткоў свету. Сярод арганізацый былі намінаваны НДА Common World (Агульны свет) і Little Bird Mutual Assistance Hotline (Гарачая лінія ўзаемадапамогі “Маленькая Птушка”) з Кітая, а таксама Група ўзаемадапамогі і Цэнтр прававой дапамогі ў сферы правоў чалавека з Гватэмалы. Выбітная група асоб прадстаўлена ў індывідуальнай намінацыі: Хорхе Молан з Калумбіі, Адзілур Рахман Зан з Бангладэш, Георг Фрыман з Сьера-Леоне, Гавінда Прасад Шарма Каірала з Непала, суддзя Высокага суда Свазіленда Томас Масуку, Ігар Каляпін з Расіі, Зарганар з Бірмы і Зау Мін Хтут, абаронца правоў народа Рахінг’я, які зараз жыве ў Японіі.

Злучаныя Штаты салідарныя з гэтымі абаронцамі правоў чалавека і актывістамі грамадзянскай супольнасці, якія робяць сваю цяжкую працу кожны дзень у любой частцы свету, каб зрабіць рэальнасцю тое, што гарантавана Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека.

ФАКТ

# У якія краіны беларусы едуць працаваць?

*Праграма “Ла Страда”, якая аказвае інфармацыйную падтрымку тым, хто выпраўляецца за мяжу, падвяла некаторыя вынікі сваёй працы.*

Так, з верасня 2011 г. па красавік 2012 года на інфалінію “Ла Страды” па бяспечным выездзе і знаходжанні за мяжой патэлефанавала 790 беларусаў. Часцей за ўсё тых, хто тэлефанаваў, цікавілі пытанні працаўладкавання за мяжой — 45,5% ад агульнай колькасці званкоў.

“Ла Страда” прааналізавала, куды часцей у пошуках працы выязджаюць беларусы. Спіс найбольш папулярных краін выглядае наступным чынам:

| |
|---|
| **1.Расія** (17,5%) |
| **2.Польшча** (10,1%) |
| **3.Германія** (6,7%), |
| 4.Чэхія (2,9%), |
| 5.Турцыя (2,5%), |
| 6.ЗША (2,1%). |

Усяго геаграфія выезду ўключае 41 краіну, у ліку якіх і досыць “экзатычныя” — Алжыр, Бахрэйн, Балівія, Венесуэла, Егіпет, Іарданія, Малайзія, Мексіка, Аб’яднаныя Арабскія Эміраты, Сірыя, Тайвань, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка.

Кіраўнік Праграмы “Ла Страда” **Алена Несцярук** адзначае, што апошнім часам часцей за кансультацыямі па працаўладкаванні за мяжой сталі звяртацца мужчыны.

*“Калі да 2011 года мы фіксавалі каля 20% зваротаў ад мужчын, то ў 2011 годзе адбылося значнае павелічэнне — каля 30% зваротаў мужчын ад агульнай колькасці тых, хто звярнуўся, —* канстатуе Алена Несцярук. — *Мужчын заўсёды выязджала за мяжу вельмі шмат, але ўвага ў інфармацыйнай працы надавалася больш жанчынам, як патэнцыяльным ахвярам гандлю людзьмі. Цяпер тыя інфармацыйныя намаганні, якія Праграма “Ла Страда” прадпрымае, кажучы аб праблеме гандлю людзьмі і аб праблеме бяспечнага выезду за мяжу, накіраваны і на мужчын у тым ліку. І яны пачалі разумець, што таксама павінны паклапаціцца аб сваёй бяспецы”.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

АСОБА

# Жанна Літвіна захавала пасаду

*Падчас VIII з’езда ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” у чарговы раз старшынёй гэтай арганізацыі была абрана Жанна Літвіна. Спробы “добразычліўцаў” дыскрэдытаваць Літвіну мелі адваротны эфект: яна яшчэ тры гады будзе ўзначальваць адну з самых аўтарытэтных грамадскіх арганізацый краіны.*

*“Скажу абсалютна шчыра: яшчэ ў снежні мінулага года, калі сабраліся сябры Рады і прымалі рашэнне аб правядзенні з’езда, прызначалі дату яго правядзення, ужо тады я сказала, што, мабыць, хопіць. Славы і прыгажосці хапае, ёсць стомленасць ... Я ўвогуле лічу, што ў нашым грамадстве пачынае ўжо дзейнічаць закон грамадзянскай стомленасці: лідары партый адны і тыя ж, лідар дзяржавы — адзін і той жа, лідар БАЖ — адна і тая ж постаць... Але наступнае развіццё падзей, тое, што адбывалася на БТ, тое, што я трапіла ў “спіс невыязных”, проста прымусіла мяне на гэта адрэагаваць. Больш за ўсё ў мяне было страху, што арганізацыя можа пацярпець у тым выпадку, калі я адмоўлюся ад прапановы ўзначаліць БАЖ. Справа ў тым, што я і на самай справе гадзілася б прыняць гэтую страшна няўдзячную пасаду — старшынства ў БАЖ. Таму, падумаўшы, я без вялікай радасці, без пачуцця нейкай перамогі, але прыняла гэтае рашэнне: калі мяне вылучыць з’езд, калі мяне абярэ з’езд, то столькі, колькі змагу, буду заставацца кіраўніком”,* — прызналася Жанна Літвіна.

З’езд адзінагалосна падтрымаў гэтую кандыдатуру.

РЭГІЁН

# У Брэсцкім раёне падвялі вынікі паўгадавой забароны «чарніла»

Ад празмернага спажывання алкаголю памерла на 6 чалавек менш, чым летась.

Прадаваць моцнае пладоваягаднае віно забаранілі летась у жніўні ў двух сельсаветах. Увосень забарону пашырылі яшчэ на чатыры, піша газета “Заря над Бугом”. За першы квартал гэтага года ад алкаголю памерлі толькі 2 чалавекі, а летась — ажно 8.

Разам з тым многія спецыялісты кажуць, што гэтая забарона неэфектыўная: таннае віно можна купіць у суседнім сельсавеце ці ў абласным цэнтры. Забарона выклікала пратэст гандляроў. Прыбыткі продажу “чарніла” ўпалі амаль на палову.

Дарэчы, Беларусь па спажыванні алкаголю ўваходзіць у топ-дзясятку краін свету. Наш паказчык — 15,13 літра на чалавека ў год. Гэта амаль у тры разы перавышае норму, за якой пачынаецца пагроза фізічнага выраджэння нацыі.

СОСЕДИ

# Путин определился с новым составом правительства

*В понедельник на совещании с участием президента Владимира Путина и премьера Дмитрия Медведева были определены состав и структура нового, 12-го по счету, правительства России.*

*Всего в новом правительстве, помимо самого премьера, — семь его заместителей, включая одного первого вице-премьера, и 21 министр.*

**Новые министры:**

— глава МВД — **Владимир Колокольцев**;

— глава МЧС — **Владимир Пучков**;

— глава Минэкономразвития — **Андрей Белоусов**;

— глава Минздрава — **Вероника Скворцова**;

— глава Министерства труда и соцзащиты — **Максим Топилин**;

— глава Минпромторга — **Денис Мантуров**;

— глава Минсельхоза — **Николай Федоров**;

— глава Министерства природы и экологии — **Сергей Донской**;

— глава Минкультуры — **Владимир Мединский**;

— глава Минкомсвязи — **Николай Никифоров**;

— глава Минобрнауки — **Дмитрий Ливанов**;

— глава Минрегионразвития — **Олег Говорун**;

— глава Минтранса — **Максим Соколов**;

— глава Минэнерго — **Александр Новак**;

— министр по развитию Дальнего Востока — **Виктор Ишаев**;

— министр по связям с “Открытым правительством” — **Михаил Абызов**.



Среди семи вице-премьеров (столько же было в прежнем правительстве) также появились новые лица — бывший помощник президента **Аркадий Дворкович** и бывшая заместитель мэра Москвы по вопросам социального развития **Ольга Голодец**.

Свои посты сохранили вице-премьеры Владислав Сурков, Игорь Шувалов (единственный первый вице-премьер, раньше их было два), Дмитрий Козак, Александр Хлопонин, Дмитрий Рогозин. Сурков при этом получил сразу два поста — он также возглавил аппарат правительства.

**“Старые” министры:**

— министр обороны — **Анатолий Сердюков**;

— министр финансов — **Антон Силуанов**;

— министр иностранных дел — **Сергей Лавров**;

— министр юстиции — **Александр Коновалов**;

— министр спорта — **Виталий Мутко**.

СПАДЧЫНА

# Статут вернецца ў Беларусь

*Некалькі дзён спатрэбілася беларусам, каб сабраць сродкі на нацыянальную рэліквію. Цяпер ёсць надзея, што Статут, выстаўлены на электронны аўкцыён у Маскве, вернецца на Бацькаўшчыну.*

Гэта будзе першы арыгінал Статута на старабеларускай мове ў зборах нашай краіны.

Як паведаміў дырэктар магілёўскага гістарычнага музея **Аляксей Бацюкоў,** грашыма пабяцаў дапамагчы таямнічы спонсар. Сваю дапамогу таксама прапанаваў Нацбанк.

Статут ВКЛ — найвышэйшае дасягненне старабеларускай прававой думкі, аснова ўсёй юрыдычнай сістэмы Вялікага Княства Літоўскага. Па сутнасці, гэта была сярэднявечная Канстытуцыя, якая дзейнічала на ўсіх землях сучаснай Беларусі і была адной з самых прагрэсіўных у Еўропе.

Ва ўсім свеце налічваецца каля 60 асобнікаў усіх трох выданняў Статута, з іх 29 адносяцца да выдання 1594—1595 гадоў. Знаходжанне гэтых асобнікаў: Вялікабрытанія (1), Літва (6), Польшча (6), Расія (11), Украіна (5), а ў Беларусі няма ніводнага. Як прыватнымі асобамі, так і дзяржаўнымі інстытутамі краіны ўжо рабіліся спробы выкупіць асобнікі Статута, аднак беспаспяхова.

ВНИМАНИЕ!

# МЧС предупреждает...

*23, 24 и 25 мая 2012 года Минское городское управление МЧС совместно с Минским городским исполнительным комитетом, администрацией Центрального района города Минска и другими заинтересованными организациями проводят комплексные учения на тему “Управление силами и средствами Центрального районного звена Минской городской подсистемы ГСЧС и ГО при угрозе и возникновении чрезвычайных ситуаций в мирное время.*

Перевод гражданской обороны района на военное положение. Проведение аварийно-спасательных и других неотложных работ в мирное и военное время”. Мероприятия проводятся на площадках и объектах Центрального района города согласно утвержденному расчету, с 09.00 до 17.00 часов на протяжении трех дней.

На учебных точках будет отрабатываться слаженность действий спасателей, военных, милиции, гражданских формирований гражданской обороны и других служб города. Будут отрабатываться вопросы: проведение инженерных работ по укреплению берегов водохранилища; ликвидация последствий розлива нефтепродукта; проведение спасательных работ на поверхности воды; герметизация учебных помещений школы, попадающей в зону возможного химического заражения; эвакуация детей дошкольного возраста из зоны возможного химического заражения; проведение работ по демеркуризации ртути; ликвидация пожара в высотном здании; развертывание медицинского отряда гражданской обороны; организация защиты населения от опасностей возникающих в результате военных действий; развертывание станции по обеззараживанию транспорта, обеззараживание одежды и обуви; организация и ведение метеорологического, радиационного и химического наблюдения и многие другие мероприятия.

Просим обратить внимание: В ДНИ ПРОВЕДЕНИЯ УЧЕНИЙ БУДЕТ ВКЛЮЧАТЬСЯ СИСТЕМА ОПОВЕЩЕНИЯ НАСЕЛЕНИЯ, это учебные мероприятия.

Любую интересующую информацию можно получить по телефонам: (017) 226-06-73, 226-06-69 и 294-61-22.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Загадкавы «патрыятызм»

Паважаная "Народная Воля"!

8 мая 2012 года я некалькі хвілін глядзеў па тэлевізіі пасланне А.Лукашэнкі свайму кішэннаму парламенту — якраз у той момант, калі ён казаў пра патрыятызм, але нічога канкрэтнага не патлумачыў. Таму далей глядзець у мяне ўжо не было ахвоты. Так званае выхаванне "патрыятызму", якое праводзіцца ў Беларусі апошнія 18 гадоў, на практыцы дае толькі адваротны вынік.

Хіба можна выхоўваць патрыятызм на чужой мове, топчучы сваю — матчыну? Хіба можна выхоўваць яго на чужой культуры, чужой ідэалогіі, на чужой сімволіцы, чужой гістарычнай памяці, адрыньваючы сваю нацыянальную культуру, гісторыю, сімволіку, традыцыі і г.д.? А з якой пагардай кіраўнік дзяржавы вымаўляе слова "самасвядомыя"! Кожны ж нармальны чалавек, нават з незакончанай пачатковай адукацыяй, разумее, што словы "патрыятызм" і "самасвядомасць" — гэта сінонімы, яны абазначаюць адно і тое ж. Свядомы чалавек — значыцца, патрыёт. А калі не самасвядомы, дык якім жа ён можа быць патрыётам? Якая яму цана і карысць для дзяржавы?

Але яшчэ большы абсурд у тым, што ў зале сядзела процьма "мудрацоў", і ні адзін нават сваім сівым валаском не паварушыў, каб адважыцца паправіць прамоўцу. Дый ці могуць яны памысліць аб такім нават у страшным сне? Яны ж насамрэч — не народныя абраннікі, а прызначэнцы таго ж прамоўцы. Адсюль вынікае, што быць адданым сынам сваёй Бацькаўшчыны, як, напрыклад, Сяргей Каваленка, значыць быць "ворагам народа"... Ну і дажыліся! Нездарма на Беларусь ўся Еўропа, і не толькі яна, глядзіць як на дзікуноў.

Не дзіва, што вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі НАН РБ Вольга Паўлоўская лічыць, што ў далейшым у беларускім грамадстве каштоўнасць патрыятызму можа яшчэ больш знізіцца ("Народная Воля" №№69—70: "Любоў да радзімы на апошніх месцах у іерархіі каштоўнасцяў беларускай моладзі"). На вялікі жаль, высокаадукаваная спадарыня Паўлоўская не тлумачыць галоўных прычын такога духоўнага заняпаду ў грамадстве.

Яшчэ больш здзіўляе выказванне прэс-сакратара грамадзянскай кампаніі "Будзьма беларусамі" Алеся Плоткі. Вось што ён піша: "Адзін з варыянтаў выхавання патрыятызму — стварэнне адпаведных камп'ютарных гульняў". Змест агульнанароднага рашучага змагання за адраджэнне роднай мовы, гістарычнай памяці, нацыянальнай культуры, уніяцкай царквы, нацыянальнай сімволікі ён бачыць паратунак у камп'ютарных гульнях! Адным словам: эўрыка!

Загадкавай бачыцца і пазіцыя рэспубліканскай ветэранскай арганізацыі, якая не дае абгрунтаванага аналізу таго, чаму сёння амаль кожны трэці малады беларус хацеў бы жыць не ў краіне-пераможцы — Беларусі, а ў пераможанай Нямеччыне. Ці не крыўдна сёння тым яшчэ застаўшымся ў жывых трыццаці тысячам удзельнікам Другой сусветнай вайны, якія ваявалі з немцамі, а іх унукі і праўнукі добраахвотна прагнуць у нямецкі "палон"? Можа, на моладзь так паўплывала ў свой час сумнавядомае інтэрв'ю А.Лукашэнкі нямецкай газеце "Handelsblatt" (там ён расхвальваў як узор гітлераўскі парадак), што новаму пакаленню ажно карціць жыць у Нямеччыне, дзе даўно асуджаны той "парадак" і яго чалавеканенавісніцкая ідэалогія?

Як бачым, пакуль толькі адны загадкі, а хацелася, каб разумныя мудрацы давалі б мудрыя адгадкі, не цешылі нас пустаслоўем.

З павагай —

**Мікола КАНАХОВІЧ,**
**ветэран Узброеных сіл.**

*г.Пружаны.*

## *Тренируйте память!*

***Я получаю зарплату на карточку. Недавно PIN-код просто вылетел из головы, чудом вспомнил и сумел снять деньги. С другой стороны, на карточке этот код записывать страшно — просто подарок мошенникам будет в случае чего. На бумажках каких записать — все равно потеряется. Вот и возник у меня простой вопрос: можно ли как-то восстановить забытый PIN-код банковской карточки?***

**И.М.Зеленковский,**
**г.Брест.**

В настоящий момент банки не предоставляют клиентам возможность восстановить забытый PIN-код, поэтому карточку придется перевыпускать. Для этого необходимо обратиться с заявлением на перевыпуск карты в отделение банка, где открыт карт-счет.

Также нужно помнить, что эта услуга платная, а размер комиссии зависит от тарифов конкретного банка. Естественно, перевыпуск карточки займёт определенное время — от нескольких часов до десяти дней в зависимости от банка.

З ПІСЬМА

## *За кошт вакзальнага туалета казну не напоўніш*

У Вільнюс дабіраўся праз Мінск. Таму ўзнікла адпаведнае параўнанне.

На Мінскім цэнтральным чыгуначным вакзале туалет платны. У Вільнюсе на такім жа чыгуначным вакзале ён бясплатны.

А нам кажуць: у Літве, якая ўвайшла ў Еўрасаюз, з чалавека выціскаюць апошнія сокі, у нас жа — усё для чалавека.

Вось вам і для чалавека. За кошт вакзальнага туалета сталічныя начальнікі хочуць напоўніць казну. Ці ж не смешна?

**Васіль КАЗУБОЎСКІ,**
**жыхар Віцебска.**

ЛІСТ ЗЕМЛЯКАМ

# Ціхія могілкі ці барацьба за годнасць?



Нарачанскі край — мая малая радзіма. Кожны раз, прыязджаючы на Мядзельшчыну, я набіраюся моцы, нейкай невядомай энергіі. Тут мае блізкія, тут сябры дзяцінства, тут мае настаўнікі і проста добрыя знаёмыя. Гэтая зямля мяне выхавала, тут я рабіў свае першыя крокі ў жыцці.

Кожны раз, наведваючыся, з цікавасцю сачу за ўсімі зменамі, параўноўваю. І вось нядаўна я, прыехаўшы ў Мядзел на Радаўніцу, пабачыўшы і пачуўшы, што там адбываецца, адчуў нейкае ўзрушэнне ў сваёй душы. З аднаго боку — радасць ад сустрэчы з роднай зямлёй, з другога — адчуванне, быццам я знаходзіўся каля ложка цяжкахворага чалавека, у вачах якога безнадзейнасць.

Першае, што кідаецца ў вочы, адсутнасць людзей на вуліцах, толькі дзе-нідзе гуляюць у дварах дзеці. І гэта адчуванне не ад таго, што я прыехаў з буйнога горада, проста насельніцтва Мядзела і ўсяго раёна змяншаецца, відавочна старэе і вымірае. Маладыя і перспектыўныя з'язджаюць хто куды: у Мінск, у Расію на заробкі і нават у Еўропу.

Чаму так здараецца? Таму што няма аніякіх перспектыў. Я не ведаю, аб якім такім сярэднім заробку ў 3,5 мільёна рублёў у краіне распавядаюць дзяржаўныя СМІ. Мне добра вядома, што ў Мядзелі заробак у памеры 1,5—2 мільёны — гэта, як кажуць тут, "за шчасце". І як пражыць на такія сродкі — пры тым, што кошты на тыя ж прадукты харчавання не меншыя, а то і большыя, чым у тым жа Мінску? Вось і чакаюць усе лета. Выратоўваюцца — хто як можа. Хто збірае грыбы і ягады, каб потым іх прадаць ці здаць; хто ловіць рыбу; хто яшчэ што. Але і гэта рабіць забараняецца, таму што амаль уся тэрыторыя раёна знаходзіцца ў межах Нацыянальнага парку "Нарачанскі". Але людзі ўсё роўна рызыкуюць. Бо іначай як жыць?!

Некаторыя і ўвогуле выратоўваюцца, схапіўшыся за бутэльку гарэлкі альбо звышпапулярнага "чарніла". Дарэчы, агульнае п'янства дасягнула памераў катастрофы. Тут ёсць і нейкае псіхалагічнае абгрунтаванне. Таму што цяжка бачыць ва ўмовах "пустых кішэняў", як песцяцца адпачываючыя-мінчукі ці тыя ж расіяне на берагах найпрыгажэйшых блакітных азёр, раскідваючыся грашыма направа і налева. Вось некаторыя не вытрымліваюць так званай "сацыяльнай несправядлівасці" і цалкам гінуць, як тут кажуць, "садзяцца на шклянку". І нейкай насмешкай мне падаўся антыалкагольны плакат "Мама, папа — не пейте", які я бачыў на будынку Дома быту ў цэнтры Мядзела... Быццам зроблена дзеля нейкай птушачкі ў плане барацьбы за цвярозасць. Трэба змагацца як з самім п'янствам, так і з тым, што да яго даводзіць!

Мяне вельмі спужала тое, што я ўбачыў на мядзельскіх могілках на Радаўніцу — вялікая колькасць магіл занадта маладых людзей, ва ўзросце самага росквіту. Статыстыка проста жудасная! І гэта трагедыя, бо няма аніякай вайны, няма землятрусаў ці цунамі, а ёсць фактычнае выміранне — як фізічнае, так і псіхалагічнае. Дэградацыя жывых...

Мядзельскі — не самы адсталы раён краіны. Але... Той жа моладзі і працаваць асабліва няма дзе, і прыстойнага заробку няма, ды і адпачыць, правесці вольны час — праблема. Не так даўно ў Мядзелі пабудавалі спартыўна-аздараўленчы комплекс. Але яго магчымасці ў дзясяткі разоў меншыя, чым сапраўдная цікавасць жыхароў Мядзела да актыўнага адпачынку. Некаторыя спрабуюць гэтую неабходнасць вырашыць, наведваючы аздараўленчыя ўстановы мясцовага курорта.

А дзе вечарам адзначыць дзень нараджэння, правесці вяселле, карпаратыўны юбілей? Рэстаранаў і кавярняў амаль няма (улічваючы, што гэта тэрыторыя курортнай зоны). А большая частка з тых, якія працуюць, знаходзяцца далёка ад больш-менш прыстойнага ўзроўню.

Мясцовы гандаль трываецца ў асноўным за кошт прыватных крам, дзе можна набыць больш ці менш якасны і танны тавар. Дзяржаўны гандаль амаль загінуў. Мядзельскі райспажыўсаюз фактычна банкрот. І гэта ў курортнай зоне?! Нават выдатны прыклад суседняга Пастаўскага раёна ніяк не ўплывае на развіццё раённага гандлю і сістэмы грамадскага харчавання. Таму сама сабой напрошваецца выснова, што ў такім развіцці ніхто не зацікаўлены.

Дарэчы, увогуле ёсць такое адчуванне, што кіраўніцтву раёна зусім няма справы да развіцця раёна і дабрабыту простых людзей у ім. Мне добра вядома, як рознага кшталту прыватныя ініцыятывы застаюцца без увагі з боку мясцовых улад. Паўсюль адчуванне паказухі, а не сапраўднай справы... У тым жа Мядзелі калісьці навялі "марафет" з нагоды правядзення Рэспубліканскага экалагічнага форуму, але на тым усё і спынілася.

А колькі цікавага і карыснага можна зрабіць тут! Як кажуць, "сам Бог шэпча". Напрыклад, узяць той жа востраў "Замак" — самае любімае і найпрыгажэйшае месца адпачынку мядзельцаў. Гэта гістарычнае месца. Тут жа можна было пабудаваць макет замка — так званы музей, невялічкія выставы гістарычных каштоўнасцяў, розных рамёстваў і гэтак далей. Праводзіць тут кожныя выхадныя рыцарскія турніры, музыкальныя фэсты (па прыкладзе Мірскага замка, Нясвіжа), арганізаваць цывілізаваныя пункты грамадскага харчавання. Пры гэтым пабудаваць гатэль для прыняцця розных турыстаў і пілігрымаў. І самае галоўнае — рабіць гэта шчыра, вельмі асцярожна, не губячы навакольнае асяроддзе. Але, на жаль, колькі я сябе памятаю, і сёння на гэты самы "Замак" нават няма нармальнага моста. Толькі гнілыя дошкі. Сорам!

І гэта Мядзел — адміністрацыйны цэнтр раёна. А што адбываецца ў Свіры, Крывічах, Кабыльніку, Занарачы і г.д.?!

Я прывёў толькі адзін маленькі прыклад з тысячы, як можна зрабіць сапраўды прыгожую і карысную справу. І тым самым даць магчымасць працаваць і зарабляць людзям, павялічыць колькасць працоўных месцаў, напоўніць бюджэт раёна. Я ўжо не кажу пра адсутнасць нармальнай цывілізаванай інфраструктуры курортнай зоны. Тут усё ў заняпадзе. Мае знаёмыя мінчукі ў адзін голас кажуць: "Найпрыгажэйшыя месцы, цуд прыроды, але больш амаль нічога няма. Мала месцаў, дзе можна якасна пахарчавацца, мала гатэляў, паркінгаў, пунктаў пракату і г.д. Паняцце "сэрвіс" на Нарачанскім курорце адсутнічае за выключэннем прафілакторыяў і дамоў адпачынку. Магчымасці нарачанскай курортнай галіны значна большыя. Я ведаю, што нямецкія студэнты самастойна распрацавалі для гэтых месцаў гатовы да ўжывання бізнес-план развіцця так званага "фальклорнага" турызму. Але нікому не спатрэбіліся іх прапановы.

Хаця малыя расткі прыватных ініцыятыў і выдатных прыкладаў сапраўдных вынікаў ёсць. Узяць тое ж Камарова, дзе паступова развіваецца вясковае прадпрымальніцтва. Гэта прыклад для ўсіх!

Дзеля справядлівасці трэба сказаць і пра тое, што ў Мядзельскім раёне фактычна існуюць дзве ўлады. З аднаго боку, гэта райвыканкам, з другога — Нацыянальны парк "Нарачанскі", які кантралюе амаль 70 працэнтаў тэрыторыі раёна і пэўную частку прамысловасці раёна. Вось пры такім двоеўладдзі і ківаюць яны адзін на аднаго.

Мае землякі могуць сказаць: "Вось ты, Цыбульскі, такі разумнік, сядзіш там у сталіцы і развяжаеш. Тое, што тут жыццё робіцца ўсё больш дрэнным, мы і без цябе добра ведаем. А што ты прапануеш? Што нам рабіць?А калі і рабіць — напэўна, нічога не атрымаецца".

Паважаныя мае землякі — мядзельскія, нарачанскія, свірскія, кабыленскія, крывіцкія і г.д.! Мой уласны погляд на жыццё такі: ніхто і ніколі нам нічога не дасць і не павінен даваць. Усяго ў жыцці трэба дабівацца самім! Таму чакаць нейкай асаблівай павагі да сваіх праблем ад мясцовага кіраўніцтва не трэба. Улада — гэта МЫ самі, а не яны. Ці вы забыліся, што па Канстытуцыі галоўным органам мясцовай улады з'яўляецца раённы Савет дэпутатаў — прадстаўнікоў народа? А райвыканкам з'яўляецца толькі выканаўцам рашэнняў гэтага Савета. А атрымліваецца ўсё наадварот. Паглядзіце на склад раённага Савета... Там жа амаль адны кіраўнікі прадпрыемстваў і рознага кшталту чыноўнікі з таго самага райвыканкама!! Рука руку мые. Вось і атрымліваецца, што прымаюцца пустыя, далёкія ад жыцця рашэнні, дзеля птушкі. Але хто іх выбіраў, гэтых самых дэпутатаў? Ці ведаеце вы, хто прадстаўляе вашу выбарчую акругу ў так званай Палаце прадстаўнікоў, ці бачылі гэтага чалавека ўвогуле?

Таму не трэба баяцца. Трэба ісці і змагацца за сваю годнасць, бо мы і ёсць тут сапраўдныя гаспадары. Я цалкам згодны з той думкай, што выбараў у нашай краіне не існуе, ёсць толькі імітацыя іх і фактычна прызначэнне "лаяльных" асоб. Але, на маю думку, змагацца на мясцовым узроўні — можна. Трэба вылучаць сапраўдных завадатараў, актывістаў, паспяховых бізнесменаў і проста неабыякавых людзей. Вылучайцеся самі, гаварыце з людзьмі, сустракайцеся, тлумачце!

І яшчэ. Вы ўсе добра ведаеце тых, хто ўваходзіць у склад выбарчых камісій. Дык вось, паглядзіце ім у вочы! Задайце ім свае пытанні! Засцеражыце іх ад граху! Зрабіце ўсё, каб гэтыя людзі вельмі відавочна адчувалі сваю адказнасць. Няхай вашы дзеянні прымусяць задумацца "махляроў" ад улады. Бо ўлада далёка, а ім жыць побач з вамі.

Мае землякі! Не чакайце вы ад неба дажджу, змагайцеся, бярыце сваё. Не чакайце, што нехта прыйдзе — і ваша жыццё адразу палепшыцца. Ніхто не зменіць наша жыццё за нас.

Упэўнены, што вельмі шмат тых, хто збольшага згодны з маімі меркаваннямі. Калі хто прачытаў гэты мой ліст, то перадайце яго другому. І Вы самі ўбачыце колькі нас шмат. Больш за тое скажу — нас ПЕРАВАЖНАЯ БОЛЬШАСЦЬ. Трэба зрабіць так, каб Нарачанскі край быў утульны не толькі для адпачываючых, але і для людзей, якія ў ім жывуць і працуюць.

Уздыміце галаву, расплюшчыце вочы, аб'ядноўвайцеся ў суполкі! Не маўчыце! Патрабуйце! Прымушайце ўладу вас слухаць!

Жыве наш Нарачанскі край!
Жыве Беларусь!

**Алесь ЦЫБУЛЬСКІ,**
**прадпрымальнік, у свой час працаваў кіраўніком аддзела ў Цэнтральным камітэце Беларускага патрыятычнага саюза моладзі, пазней ператтворанага ў БРСМ.**

*Мядзел—Мінск.*

ЖЫЦЦЁВАЕ ПЫТАННЕ

## *Калі ў кране няма вады...*

***Як толькі лета — дык пачынаецца адключэнне гарачай вады. Спачатку на два-тры тыдні, а потым і яшчэ камунальшчыкі "для прафілактыкі" пару дзён абавязкова дабіраюць. Я вось думаю: як гэта іншыя гарады і краіны жывуць, не маючы моды летам адключаць гарачую ваду? Як гэта яны за пару гадзін робяць гэтую "прафілактыку"? Чаму на два тыдні адключаюць ваду нават там, дзе ўжо мянялі трубы? Колькі нас будуць падманваць?***

***Памятаю, яшчэ былы мэр Мінска Міхаіл Паўлаў прызнаваў, што ў XXI стагоддзі адключаць гарачую ваду недапушчальна. Але справа так і не зрушылася.***

**Вера ЛАЎРЫКАВА, г.Мінск.**

Камунальшчыкі хваляць сябе ўжо за тое, што гарачую ваду адключаюць толькі на два тыдні, хаця раней у кранах гарачай вады не было на працягу месяца. І звяртаюць увагу вось на якую дэталь.

У перыяд адключэння ў краны для гарачай вады падаецца халодная. Адпаведна, калі вы ўключылі кран, то лічыльнікі яе лічаць як гарачую. І разлічвацца за такую ваду прыходзіцца таксама як за гарачую. Каб не было непрыемных сюрпрызаў, камунальшчыкі раяць звяртацца ў ЖЭСы і перакрываць краны гарачай вады.

ЗАЧАПІЛА...

# Роздум пасля свята

*Наша "раёнка" пасля 9 Мая надрукавала артыкул свайго карэспандэнта аб святкаванні ў раёне Дня Перамогі. З вялікім жалем газета пісала: "...І хоць у раёне налічваецца зараз 110 ветэранаў, у раённым свяце змаглі прыняць удзел толькі 17 з іх" ( "Працоўная слава" за 11.05.12 г.).*

*А ці варта наогул турбаваць сёння нашых ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, каб яны ўдзельнічалі ў масавых мерапрыемствах у Дзень Перамогі?*

Сёння наймаладзейшаму ўдзельніку вайны ўжо 85—86 гадоў. Узрост, які заслугоўвае не толькі павагі, але найперш апекі, догляду. А нашы чыноўнікі ніяк не могуць адмовіцца ад камуністычных традыцый і "цягнуць" састарэлых людзей на шэсце, трымаюць гадзінамі на трыбунах у спякоту, нават усхваляюць іх памкненні маршыраваць у вайсковым строі на парадзе. Было б лепш, каб чыноўнікі ў Дзень Перамогі наведалі ветэранаў вайны ў іх кватэрах, хатах, выпілі з імі кубачак гарбаты, пацікавіліся іх жыццём, здароўем, падзякавалі за Перамогу. Са згоды ветэранаў можна было б даць ім магчымасць наведаць брацкія магілы воінаў, якія загінулі ў час вайны, каб яны змаглі пакланіцца былым сваім таварышам-франтавікам.

Веруючым ветэранам трэба было б даць магчымасць наведаць храмы, каб яны змаглі запаліць свечкі ў памяць аб сваіх родных і блізкіх, якія ўжо пайшлі з жыцця, памаліцца аб сваім здароўі.

Для нашых ветэранаў вайны, як і для нас, больш маладзейшых, Дзень Перамогі — гэта свята са слязамі на вачах. Мільёны іх баявых таварышаў загінулі, самі яны пралівалі сваю кроў, па крупінках аддавалі за перамогу сваё здароўе. У вайну загінулі мільёны мірных людзей — нашы дзяды і бабулі, бацькі і дзядзькі, браты і сёстры, і ў Дзень Перамогі мы не можам забыць іх. Было б вельмі дарэчы, каб на масавым мерапрыемстве ў гэты дзень людзі ўвечары каля храмаў запалілі свечкі і некалькі мінут пастаялі моўчкі. Гэтыя мінуты жалю, болю былі б найбольш блізкімі да хрысціянскіх традыцый, адпавядалі б духу свята. А ад сённяшняй камуністычнай традыцыі — "Минута молчания" — трэба адмаўляцца. Яна страціла эмацыянальнасць, не выражае людскі боль, спачуванне загінуўшым у вайну. Сродкі, якія выдзяляюцца ўладай на масавыя мерапрыемствы ў Дзень Перамогі, лепш накіраваць на рамонт помнікаў — і на брацкіх магілах, і на могілках, на якіх таксама спачываюць ахвяры вайны.

Дзень Перамогі — гэта СВЯТЫ (!) дзень. Перамога атрымана коштам жыццяў тых мільёнаў людзей, якія ляжаць у магілах. Можа, наша весялосць у гэты дзень не да месца?..

І яшчэ некалькі слоў хачу сказаць, толькі ўжо аб іншым святе - Дне дзяржаўнага Герба і дзяржаўнага Сцяга. Некалькі дзён таму прачытаў, што нашы сённяшнія дзяржаўныя сімвалы вельмі старажытныя: "В этих символах отражена славная многовековая история Беларуси". Сённяшнія 20-гадовыя маладыя людзі, калі яны не цікавяцца гісторыяй, можа, і паверацць у гэта. Гэта ж колькі стагоддзяў мінула з 1995 года, калі былі зацверджаны сённяшнія Герб і Сцяг нашай дзяржавы? Відаць, нашым чыноўнікам трэба вучыць арыфметыку. А можа, яны наўмысна ўводзяць у зман моладзь?

У адной справе яны ўжо дамагліся чаго хацелі: моладзь не размаўляе на роднай мове. Вось цяпер яны мараць аб тым, каб сцерці з памяці людской сапраўды шматвяковую гісторыю роднага краю, старадаўнія сімвалы народаў ВКЛ: герб "Пагоня", бел-чырвона-белы сцяг. З гэтымі сімваламі нашы продкі змагаліся з ворагамі цягам многіх стагоддзяў. Вельмі балюча і крыўдна, што сённяшняя наша ўлада не хоча гэтага прызнаць, а, наадварот, праследуе людзей за тое, што яны паважаюць сімвалы сваіх продкаў.

Славуты нямецкі паэт і драматург Шылер пісаў: "Ісціна абсалютна не перажывае з-за таго, што хтосьці яе не прызнае". Ісціна не патрабуе ніякіх доказаў. Герб "Пагоня", бел-чырвона-белы сцяг — гэта наша гісторыя. Ісціна. Яна ёсць і заўсёды будзе. Яна ніколі і нікуды не знікне.

**Міхаіл СПІРЫДОВІЧ.**

*г.п.Івянец.*

ВОПРОС—ОТВЕТ

***Я — минчанин. Мне нужно поменять удостоверение водителя. Но у меня истек срок действия медицинской справки. Скажите, в каких поликлиниках теперь можно пройти водительскую комиссию?***

**Валерий ВОЛЧЕЦКИЙ.**

## *Если вам нужно пройти водительскую комиссию...*

Медицинские справки для водителей в Минске выдают:

24-я поликлиника спецмедосмотров;

33-я городская студенческая поликлиника;

34-я поликлиника Советского района;

медцентр МТЗ;

медсанчасть МАЗа;

медцентр "Горизонт";

поликлиника при МВД;

поликлиника при КГБ;

главный военный клинический медцентр Вооруженных сил РБ;

Республиканский клинический медцентр (лечкомиссия).

Заметим, не во всех этих учреждениях обычный водитель может пройти комиссию. Так, в 33-ю поликлинику за справками для вождения имеют право обратиться лишь студенты. Республиканский клинический медицинский центр, который в народе называют "лечкомиссией", выдает водительские справки только тем, кто прикреплен к медцентру. Поликлиника при МВД выдает справки военнослужащим и военным пенсионерам. Аналогичное учреждение здравоохранения при Комитете госбезопасности проводит медосвидетельствование и выдает водительские справки сотрудникам ведомства и их родственникам, если, конечно, те в ней обслуживаются.

ТВОРЧАСЦЬ ЧЫТАЧОЎ

*Анатоль ЦЫРКУНОЎ*

### *Грозная зброя смеху*

Усё маглі ўладальнікі кароны,
Цары, султаны, ханы, каралі,
Адзінае, што толькі не маглі,
Знайсці ад смеху абароны...
Ліхія ўладары на гумарыстаў
Глядзяць і зараз як на тэрарыстаў...

### *Адносна хабару*

За хабар, калі куш харошы,
Гатоў і чорт вам паслужыць,
Бо нават чэрці любяць грошы,
І ў пекле з імі можна жыць...
На добры хабар ловяць і чарцей,
Чыноўнікаў лавіць яшчэ прасцей...

### *Не па зубах*

Гляне на каўбасы і сыры,
Ды на цэны, што ляжаць радкамі,
І бурчыць пенсіянер стары:
"Хай ядуць іх мышы з пацукамі!.."
Застаецца дзеду толькі пах
Каўбасы, дый сыр не па зубах.

### *Ахавальнік закону*

Так пільна ён закон сцярог
Ад невядомае пагрозы,
Што карыстацца ім не мог
Ніхто, ні п'яны, ні цвярозы...
Пры беззаконнасці прасцей
Захоўваць праўду ад людзей.

### *На польскім кірмашы*

***(З газет)***

Мінчук па-польску не балакаў,
Але ж пацешыў ён палякаў,
Калі хамут ім прадаваў,
З якім на шыі гарцаваў,
Як борзды конь незацугляны...
Дзівак то быў ці, можа, п'яны?

### *Сіла ў слабасці*

Не адзін прамудры Саламон
Пападаўся бабам у палон,
Не адзін магутны Геркулес
Ад наскокаў жонкі бег у лес...
Баявіты нораў маюць бабы,
Хто сказаў, што пол жаночы слабы...

## *В деревне сегодня можно жить лучше, чем в городе*

Не нужно плакаться, что все у нас плохо. Раньше в деревне "сотки" обрезали чуть ли не по угол дома, а теперь бери земли сколько хочешь. Помню времена, когда двух коров нельзя было держать. Сейчас хоть стадо имей... Одним словом, кто не пропил мозги и имеет здоровые руки, тот может жить в деревне лучше, чем в городе.

**Светлана ЛАГОДИЧ,**
**пенсионерка.**

*Гомель.*

